№ 6 (34) КАСТРЫЧНІК- СЬНЕЖАНЬ 1991



# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ



RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

# БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

## РОДНАЯ МОВА Ў СЬВЯТЫНЯХ! (ЧАСТКА 20)

Др.Віктар Сенкевіч.

Дарагія чытачы! Мы працягваем перакаа зьместу працы ведамага беларускага рэлігійнага гзеяча ксяндза Адама Станкевіча "Родная мова ў сьвятынях", што была выдадзеная ў Вільні ў 1929-м годзе. У 9 разьдзеле азагалоўленым "Беларуская мова ў сьвятынях у 1919-1925 гадох", разглядзіўшы працэс укараненьня беларускае мовы ў касьцёлах Беларусі за Віленьскага біскупа Юрага Матуляйтіса і расказаўшы пра айца Зэнона Якуця і ягоную ролю ў замацаваньні роднае мовы ў сьвятынях, аўтар спыняецца на шматлюдным беларускім зьездзе, які адбыўся ў чэрвені 1919 году ў Вільні і які стварыў сталую арганізацыю пад назовам "Беларуская Цэнтральная Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны". Вось-жа гэтай арганізацыі- піша айцец Адам Станкевіч - было даручана зьвярнуцца да духоўных уладаў у справе замацаваньня правоў беларускае мовы у сьвятынях, што яна і зрабіла, высылаючы мэмарыял Віленскаму Біскупу з наступнымі дамаганьнямі:

1-ае-- Устанавіць у Віленскай Духоўнай Сэмінарыі катэдру беларускае мовы,
2-ое-- завесьці беларускія пропаведзі ў беларускіх парафіях,
3-яе-- старацца, каб быў назначаны біскуп-суфраган беларус,
4-ае-- каб у Капітуле знаходзіліся таксама і ксяндзы беларусы, у адпаведнасьці да ліку вернікаў беларусаў.

Кароткае жыцьцё і цяжкія варункі- піша далей аўтар- не далі біскупу Матуляйтісу споўніць гэтае просьбы. Але беларускае жыцьцё разьвівалася а беларуская мова, не гаворачы ужо пра тыя мясцовасьці,

дзе яна была ўведзеная ў касьцёлы пры біскупе Роппе, ўвадзілася сямтам і ў новых мясцовасьцях...

Беларускае каталіцкае духавенства, жадаючы надаць усёй беларускай каталіцкай працы больш арганізаваны і плянавы кірунак ды каб дзейнасьць гэтую яшчэ больш паглыбіць, у ліпені 1921 году склікае ў Вільні адмысловы зьезд... На гэтым зьезьдзе былі прачытаныя чатыры рэфэраты на наступныя тэмы: "Ксёндз Стэповіч- аб патрэбе арганізацыі ксяндзоў беларусаў; айцец Адам Станкевіч- пра беларускую мову ў Касьцеле; ксёндз Бобіч - аб беларускім рэлігійным выдавецтве і айцец Язэп Гэрмановіч- пра Вунію. Зьезд, разледзіўшы і прадыскутаваўшы згаданыя рэфэраты, прыняў затым пастановы адносна захадаў у справе ўвядзеньня ў Віленьскай Духоўнай Сэмінарыі беларускае мовы і ў справе біскупа-суфрагана беларуса. Прыймаючы гэтыя дзьве пастановы- працягвае аўтар- зьезд уважаў, што без грунтоўнага веданьня беларускай мовы ксяндзамі- і бяз біскупа беларуса, хоць-бы толькі суфрагана, які ведаў-бы беларускую мову і карыстаўся ёю ў публічным царкоўным жыцьці- ўвядзеньне ў Касьцёл беларускае мовы было-б няпоўным а часамі і немагчымым. Усе пастановы зьезду былі прадстаўленыя біскупу Матуляйтісу, які прыняў іх да сэрца і абяцаў у меру сваіх магчымасьцяў споўніць іх. У выніку гэтага зьезду- адзначае аўтар- паўстала адразу арганізацыя ксяндзоў беларусаў пад назовам "Сьветач". Аднак разьвіцца гэтай арганізацыі не ўдалося, бо камісар ураду у Вільні адмовіў легалізацыю статуту "Сьветачу" без права на апэляцыю.

Далей айцец Адам Станкевіч піша пра спробы беларусаў каталікаў яшчэ ў 1919-1920 гадох дабіцца ад духоўных уладаў свайго асобнага касьцёлу ў Вільні, дзе яны маглі-б свабодна маліцца Богу і слухаць пропаведзі ў роднай мове. Аднак з палітычных прычынаў мэты гэтае яны не асягнулі. Справа была разьвязаная так, што дзякуючы біскупу Матуляйтісу і летувіскаму каталіцкаму грамадзтву, 1 лістапада 1921 году беларусам дазволена было карыстацца летувіскім касьцёлам сьвятога Мікалая. У тым-жа 1921 годзе- піша далей аўтар- у справе правоў беларускае мовы ў сьвятынях і ад імя ўсіх беларускіх арганізацыяў Вільні быў складзены на імя Апостальскага Нунцыя у Варшаве адмысловы мэмарыял, у якім, падобна як і ў папярэдніх беларускіх выступленьнях, былі наступныя дамаганьні: ўвядзеньне беларускае мовы ў Віленскую Духоўную Сэмінарыю, назначэньне біскупа суфрагана беларуса, увядзеньне беларускіх пропаведзяў у касьцёлах і атрыманьне асобнага касьцёла ў Вільні для каталікаў беларусаў. Але- кажа далей айцец Адам Станкевіч- у меру таго, як сярод беларускіх масаў расла сьвядомасьць патрэбы роднай мовы ў сьвятынях і ўзмацнялася дамаганьне гэтых правоў, з боку польскіх уладаў расьлі штораз большыя перашкоды, гэтак з боку духоўных як і з боку цывільных кругоў. (Тут аўтар падае прыклады гэтых перашкодаў, цытуючы справу айца Семашкевіча, пробашча ў

Лаварышках, які прасьледаваўся ўладамі за катэхізацыю дзяцей ў роднай мове і справу ксяндза Пятроўскага, пробашча ў Барунах, які быў кінуты ў Лукіскую турму таксама за сваю беларускасьць і, як цьвердзіць аўтар: "каб не перашкалжаў палякам правадзіць выбары ў Віленскі сойм з мэтаю далучэньня Вільні да Польшчы і каб яму адхацелася бараніць беларускі народ і правы ягонае мовы, як у жыцьці наагул, так і ў царкоўным").

Апісаўшы далей спробы беларусаў католікаў здабыць права на сваю рэлігійную літаратуру, якія пачаліся яшчэ ў 1911 годзе, айцец Адам Станкевіч спыняецца на далейшым змаганьні беларускага грамадзтва за увядзеньне роднае мовы у сьвятыні. Ён піша: "Аб патрэбах роднае мовы ў сьвятынях памятала таксама і шырэйшае беларускае грамадзтва, якое рабіла ў гэтым напрамку адпаведныя стараньні. Гэтак, напрыклад, 15 ліпеня 1925 году беларускія паслы католікі з беларускага Пасольскага Клюбу злажылі ў Варшаве мэмарыял Папскаму Нунцыю з адпаведнымі просьбамі. Але час ішоў і ў меру таго, як Польшча замацоўвала сваё палітычнае палажэньне ў нашым краі, ужываньне беларускае мовы ў касьцёлах абмяжоўвалася, корчылася, зьмяншалася. Асабліва адчувалі гэта беларусы пасьля вясны 1923 году, калі Рада Амбасадараў ў Парыжы прызнала канчаткова тагачасныя межы польскае дзяржавы.

Працяг пераказу зьместу 9 разьдзелу працы айца Адама Станкевіча "Родная мова ў сьвятынях", выдадзенай ў Вільні ў 1929 годзе, перадамо ў нашым наступным нумары бюлетэня.

## КАЛЯДЫ І БОГАЯЎЛЕНЬНЕ

Пасьля "Сьвята Сьвятаў"- Вялікадня-- найбольш урачыстым зьяўляецца час Калядаў і Богаяўленьня.

У Візантыйскіх літургічных кнігах Каляды адзначаюцца як "трохдзённая Пасха". 40 дзённы перадкаладны пост вельмі падобны да Вялікага Посту, а 5 дзён перадсьвяцьця напамінаюць нам Вялікі Тыдзень.

Ёсьць важная прычына гэтага падабенства: Каляды і Вялікдзень зьяўляюцца ўспамінамі двух вялікіх здарэньняў ў гісторыі нашага Збаўленьня. У часе Каляд сьвяткуем прыход на сьвет Госпада Ісуса Хрыста, які ў сваім уваскрасеньні, як новы Майсей, правядзе нас ад сьмерці да жыцьця. Гэтая перамога была здабытая дарагою цаною. Апостал Павал кажа, што Хрыстос, "будучы вобразам Божым... упакорыў Сябе, будучы паслушным да сьмерці і то сьмерці крыжовай". Такім чынам перамога над сьмерцю была куплена Хрыстом ганебнай сьмерцю. Добраахвотнае паніжэньне Хрыста пачалося ўжо пры Ягоным нарадкэньні. Будучы Богам, Хрыстос паніжыў Сябе, прыймаючы форму стварэньня. Больш таго, для Уладара Сусьвету не знайшлося месца сярод людзей, якіх прыйшоў збавіць, і нарадзіўся Ён у хляве.

На Ўсходзе Каляды маюць вельмі мала цяплыні "сямейнага сьвята" так характэрнага для Захаду. Мала гаворыцца аб людзкім боку уцелаўленьня. Замест таго візантыйская літургія дае для вернікаў вобраз Адзінароднага Сына Божага і Адвечнага Бога, які, дзеля любові людзей, стаўся чалавекам. Песьня напярэдадні сьвята зьяўляецца добрым прыкладам вышэй сказанага:

"Сёньня родзіцца ад Дзевы той, хто ў сваёй руцэ сусьвет трымае; Недаступны у сваёй сутнасьці, Ён сёньня, як сьяротны, пакрываецца пяленамі; Бог, Які ўстанавіў нябёсы сваім словам, ляжыць у ясьлях; Той, хто даваў манну людзям у пустыні, прыймае страву ад Маці; Жаніх Царквы мудрацоў прызывае і іхнія дары прыймае Сын Дзевы".

Сьвяткаваньне Каляд 25 сьнежня на Усходзе пачалося ў 4 стагоддзі. Гэты звычай прыйшоў з Рыму. Раней Нараджэньне Хрыста сьвяткавалася 6 студзеня разам з Богаяўленьнем.

Падрыхтоўка да Калядаў пачынаецца 40 дзённым постам 15 лістапада пасьля сьвята Апостала Піліпа, і таму на Беларусі называецца "Піліпаўкай".

У дзьве нядзелі перад сьвятам Каляд Царква ўспамінае продкаў Хрыста- гэта значыць продкаў Найсьвятой Дзевы- ад Адама, а таксама усіх прарокаў, якія прадказалі прыход Хрыста, і прапаведнікаў, якія дагадзілі Богу ў часах Старога Запавету. На вячэрні ў гэтыя нядзелі сьпяваецца: "Успамінаючы праайцоў, усхвалім верныя, Хрыста Збавіцеля, які уславіў іх сярод усіх людзей".

На Сьвятой Літургіі у нядзелю перад Калядамі чытаецца Эвангэльле паводле Сьвятога Матэя, разьдзел I, вершы I-25, дзе даецца радавод Ісуса Хрыста. Такім чынам Царква жадае паказаць, што Хрыстос, Які ёсьць сапраўдным Богам, быў таксама сапраўдным чалавекам.

24 сьнежня ёсьць перадсьвяточны дзень, або "чаканьне". Раніцай звычайна няма Сьвятое Літургіі, хіба, калі Каляды прыпадаюць у нядзелю, або ў панядзелак- і строгі пост абавязвае да вечара. Часы ў гэты дзень чытаюцца так-званыя "вялікія", або "царскія". Вечарам вячэрня з Літургіяю Сьвятога Васіля Вялікага. Ёсьць звычай служыць вячэрню з Літургіяю Сьвятога Васіля Вялікага таксама напярэдадні Богаяўленьня, у Вялікі Чацьвер і Вялікую Суботу. У часе вячэрні чытаецца 8 прароцтваў, у якіх прадказаны прыход на сьвет Ісуса Хрыста, Эвангэльле у Літургіі паводле Лукаша, разьдзел 2, вершы I-20.

"Што мы ахвяруем Табе Хрысьце, за тое, што Ты дзеля нас стаўся чалавекам?"-- сьпяваецца ў часе Вячэрні-- "кожнае стварэньне прыносіць Табе доказ сваей ўдзячнасьці: Анёлы -сьпеў; неба- зьвязду; мудрацы -- свае дары; пастушкі-- хвалу; зямля-- пячору; пустыня- ясьлі. Мы-ж Табе прыносім Дзеву Маці, О Божа Прадвечны, слава Табе".

У Каладны дзень на Літургіі чытаецца Эвангэльле паводле Матэя, разьдзел 2, вершы I-I2, аб пакланеньні Мудрацоў. На Захадзе пакланеньне сьвяткуецца 6 студзеня. Адсюль і назоў "Трох Каралёў".

У часе Калядаў сьпяваецца прыгожы Кандак, напісаны адным з найбольш здольных візантыйскіх паэтаў, Раманам Сладкапеўцам, які жыў у першай палавіне 6 стагоддзя: "Сёньня Дзева родзіць Таго, хто перавышае ўсякае стварэньне, і зямля пячору ахвяроўвае Недаступнаму. Анёлы з пастушкамі Яго хваляць і мудрацы за зоркай сьледуюць. Бо для нас Дзіця нарадзілася- Прадвечны Бог".

Наступны дзень, 26 сьнежня, называецца "Саборам Божай Маці". Гэта найстарэйшае сьвята ў Гонар Найсьвятой Дзевы Марыі, якая тут услаўляецца як Маці Госпада Ісуса Хрыста.

Богаяўленьне 6 студзеня зьяўляецца адным з найстарэйшых хрысьціянскіх сьвятаў. У Візантыйскім абрадзе ўспамінаецца хрост у Ярдане Ісуса Хрыста. Гэта і ёсьць "Богаяўленьне", бо пры гэтай нагодзе абьяўлена сьвету Боскасьць Ісуса Хрыста. Апрача гэтага ў гэты дзень першы раз у гісторыі чалавецтва была абьяўлена тайна Сьвятой Тройцы. Гэта вельмі добра выказана у песьні-трапары: "Пры Тваім Хросьце ў Ярдане, Госпадзе, нам зьявілася Троічная хвала: бо вось голас Айца засьведчыў аб Табе, называючы Цябе Улюбленым Сынам; і Дух у відзе голуба даў пацьверджаньне гэтым словам. Слава Табе Хрысьце Божа, які абьявіўся і прасьвяціў сьвет".

Літургічна, сьвята Богаяўленьня ёсьць падобным да Калядаў і таму яго не трэба тут апісваць падрабязна. На Вячэрні чытаецца 12 прароцтваў і Эвангэльле на Літургіі Сьвятога Васіля, якое следуе за вячэрняю, паводле Лукі, разьдзел 3, вершы 1-18. Эвангэльле на Літургіі ў самы дзень сьвята ёсьць ад Матэя разьдзел 3, вершы 13-17.

Выдатным пунктам Богаяўленьня ёсьць асьвячэньне вады, якое павінна быць напярэдадні сьвята вечарам, пасьля Літургіі Сьвятога Васіля. Звычайна аднак яго пераносяць на самы дзень сьвята.

Значэньне асьвячэньня вады ёсьць такое, што Хрыстос, сам бязгрэшны, увайшоў у ваду Ярдану і прыняўшы хрост даў гэтай вадзе сілу абмываць не толькі вонкавы бруд, але таксама ачышчаць людзей ад грахоў і ажыўляць іх у тайне Сьвятога Хросту. "О Госпадзе- сьпяваецца ў часе службы-- Ты прыйшоў, пачуўшы голас таго, хто крычаў у пустыні: "Рыхтуйце шляхі Госпаду". Не ведаючы граху, Ты прыняў вобраз слугі і папрасіў хросту. Воды пабачылі Цябе і перастрашыліся, а Прадвесьнік затурбаваўся і ўсклікнуў: "Як можа сьвяцільнік даць Сьвятло Сьвятлу? Як слуга можа ўзлажыць рукі на Гаспадара? Асьвяці мяне і воды, Госпадзе, Ты, які бярэш грахі ўсяго сьвету".

У малітве блаславеньня вады, якая зьяўляецца творам Сьвятога Сафронія, Патрыярха Ерусалімскага у 10 стагоддзі, чытаем: "Сёньня струмені Ярданскія мяняюцца праз прысутнасьць Госпада ў аздараўляючыя воды. Сёньня людзкія праступкі змываюцца сьвятымі водамі Ярдану... Сёньня прысутнасьць Госпада робіць салодкаю горкую ваду Майсеявага народу..."

**Як 26 сьнежня ёсьць сьвята ў гонар Божай Маці, так і 7 студзеня сьвяткуецца Сабор Сьвятога Яна Хрысьціцеля, Прадвесьніка Христовага, "Прыяцеля Жаніха", які ахрысьціўшы Госпада ў Ярдане і паказаўшы Яго сьвету, зачыніў часы Старога Запавету. Бо "Закон і пракрокі да Яна: ад таго часу прапаведваецца Эвангэльле Валадарства Божага".**

## БЕЛАРУСЬ - СУВЯЗЮ У ЛАНЦУГУ УСХОДНЯГА І ЗАХОДНЯГА ХРЫСЬЦІЯНСТВА У МІНУУШЧЫНУ І ДАЦЯПЕР!

(ЧАСТКА І)

**У днях 28-31 кастрычніка адбыўся ў Ватыкане сімпозіум на тэму: "Хрысьціянства і культура ў Эўропе: Памяць, Сьвядомасьць, План на будучыню". Сярод удзельнікаў гэтага спатканьня быў таксама і праф. Анатоль Грыцкевіч з Менска. Вось яго выступленьне на гэтым сімпозіуме (з Яго дазволу).**

Гісторыя хрысьціянства Беларусі пачынаецца з часоў Хрышчэньня Русі, калі, на працягу апошняга 10 годдзя X стагоддзя атрымалі хрост жыхары беларускіх земляў, а ў пачатку XI стагоддзя былі створаны біскупскія катэдры праваслаўнай Царквы ў цэнтрах княстваў: Полацку, Тураве і Смаленску, у княствах крывічоў і дрыгвічоў. З таго часу хрысьціянская культура на беларускіх землях дасягнула вялікага посьпеху. Уплыў яе не толькі на штодзённае жыцьцё грамадзтва, але і на палітыку князёў, без сумненьня, меў месца. З гэтым пэрыядам зьвязаны імёны Сьвятой Ефрасінні Полацкай і біскупа Кірылы Тураўскага.

Новыя посьпехі хрысьціянскай Царквы адносяцца да XIII стагоддзя, калі пачалася хрысьціянізацыя літоўскага насельніцтва, што жыла праз палосна з Беларусамі на тэрыторыі Русі, у раёне ракі Нёмана, у цяперашняй Гародзенскай вобласьці Рэспублікі Беларусі. У Наваградку вялікі князь літоўскі Міндоўт хрысьціўся па каталіцкаму абраду разам са сваёй дружынаю у 1252 годзе а праз год атрымаў ад Рымскага Папы каралеўскую карону і тытул караля Літвы і Русі. Праўда праз некалькі гадоў ён навярнуўся на паганства. Аднак, рымска-каталіцкі касьцёл у Наваградку, тагачаснай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага (Беларуска-Літоўскае дзяржавы) застаўся. Сын Міндаўта, Войтэлк, у сваю чаргу, хрысьціўся ў праваслаўным абрадзе, заснаваў старажытны Лаўрышэўскі манастыр і ў пэрыядзе перад ушэцьцем на пасад стаў манахам. Такім чынам, у гэты пэрыяд хрысьціянізацыі часткі літоўскага насельніцтва на тэрыторыі заходніх земляў Беларусі працэс распаўсюджаньня хрысьціянскай культуры ішоў двума шляхамі: ажыцьцяўляўся як рымска-каталіцкаю, так і праваслаўнаю Царквою. Гэтая своеасаблівасьць працэсу хрысьціянізацыі перадвызначыла спэцыфіку царкоўнага жыцьця ў беларускіх землях і ў наступныя стагоддзі. Беларуска-Літоўская дзяржава стала месцам існаваньня як Усходняй, так і Заходняй хрысьціянскай Царквы і вызначалася талерантнасьцю. Гэтае становішча не зьмянілася і пасьля Хрысьціянізацыі літоўцаў-паганаў у 1387 годзе і эвангэлізацыі іх у далейшым.

Вялікія князі літоўскія у XIV стагоддзі да хрышчэньня іх у каталіцкім абрадзе пасьпелі хрысьціцца па праваслаўным. Гэта адносіцца да Ягайлы і да Вітаўта. Усе Цэрквы Альгерду спачатку былі праваслаўныя, як і сам Альгерд. У XV- пачатку XVI ст. Вялікія Князі Літоўскія, каталікі, выдалі шэраг грамат, замацоўваючых за праваслаўнаю Царквою ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ пэўныя правы і прывілеі, пачынаючы са "Світку Яраслава"- імунітэт царкоўных валоданняў і права суду над праваслаўным насельніцтвам па сямейных і шлюбных пытаньнях, як і па пытаньнях сямейнай маралі.

Да гэтага ж пэрыяду адносіцца і вылучэньне Праваслаўнай Царквы у Вялікім Княстве Літоўскім у самастойную Царкву, не падпарадкаваную маскоўскай мітраполіі. На пачатку 1416 году Сабор біскупаў абвясьціў у Паваградку Рыгора Цамблака мітрапалітам Кіеўскім Усяя Русі, а вялікі князь Вітаўт Вялікі зацьвердзіў гэта выбраньне. Канчаткова ж Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім атрымала сваю самастойнасьць у 1458 годзе, калі вялікі князь (ён самы і польскі кароль) Казімір Ягелончык зацьвердзіў выбраньне мітрапаліта, падпарадкаванага Канстантынопальскаму Патрыярху. Склад ерархаў Праваслаўнай Царквы на Беларусі і Украіне у XV ст. паказвае таксама, што значная частка з іх была з грэкаў і балгараў, што спрыяла культурнаму уплыву Візантыі і Балгарыі на ўсходнееўрапэйскі рэгіён.

Вялікае значэньне мела для набліжэньня культуры Усходу да культуры Захаду Эўропы у XV ст. Фларэнтыйская вунія 1439 году, якая часова аднавіла не толькі ў Візантыі, Балгарыі, Сэрбіі і Вялікім Княстве Літоўскім адзінства хрысьціянскай Царквы пад кіраўніцтвам Папы Рымскага. І калі Ліёнская царкоўная вунія 1274 году практычна не мела ўплыву для усходняга рэгіёну Эўропы, то Фларэнтыйская вунія пэўным чынам фарміравала ментальнасьць кліра Праваслаўнай Царквы на Беларусі і Украіне, і стварыла ўніяцкі настрой на будаваньне адзінай хрысьціянскай Царквы, што высьвятлілася не толькі ў фармальным прызнаньні царкоўнай вуніі, але і ў зацікаўленасьці ў ёй з боку ерархаў Праваслаўнай Царквы ажно да пачатку XVI ст., нават тады, калі Кантантынопальскі Патрыярх у 1472 годзе адмовіўся ад вуніі. Усё гэта стварыла пэўныя вуніяцкія тэндэнцыі, якія праявілі сябе пазьней, пры канцы XVI ст.

Такім чынам, у пэрыяд расколу Заходняй Хрысьціянскай Царквы ў XVI ст у пэрыяд узьнікненьня пратэстанцкіх Цэркваў, на Усходзе Эўропы, куды таксама пранікл і пратэстанцкія рухі, былі створаны магчымасьці для абьяднаньня Царквы.

Адным з пераломных момантаў у гісторыі Царквы на Беларусі было прыняцьце ў 1596 годзе, асноўнай масай ерархаў і кліру Праваслаўнай Царквы Рэчы Паспалітай, а разам з імі і міранамі-- Царкоўнай вуніі і стварэньне, такім чынам, на Беларусі і Украіне Вуніяцкай Царквы усходняга абраду. У навуковай гістарычнай літаратуры было шмат спрэчак, каб даказаць яе нэгатыўнае, ці наадварот пазітыўнае значэньне. У сярэдзіне

і другой палавіне XX ст. у СССР да гэтага дадалося яшчэ і палітычнае, ідэалагічнае, камуністычна- прапагандысцкае асьвятленьне (з пункту гледжаньня Кампартыі Савецкага Саюзу, пачынаючы са Сталіна) гэтай праблемы на карысьць палітычных сімпатый кіраўнікоў СССР, якія, самі прыціскаючы рускую Праваслаўную Царкву, зыходзілі, быццам, з яе інтарэсаў.

Мэтаю гэтай прамовы не зьяўляецца палеміка па гэтым пытаньні, тым больш што Руская Праваслаўная Царква да акту 1596 году ніякіх адносінаў не мела. Больш таго, адным з матываў кіруючых колаў, ерархаў Праваслаўнай Царквы на Беларусі і Украіне было імкненьне пазбавіцца пагрозы паглыненьня сваей самастойнай Царквы з зноў утворанай ў 1589 годзе Маскоўскай Патрыярхіяй. Брэсцкая Вунія 1596 году была сваеасаблівым адказам на прагалашэньне патрыярхіі. Безумоўна, быў зроблены крок да ўмацаваньня пазіцый Вуніяцкай Царквы у Рэчы Паспалітай.

Прагалашэньне Вуніяцкай Царквы пры захаваньні невялікай колькасьці прыхільнікаў Праваслаўнай (Магілёўская ці інакш Беларуская епархія) стварыла ў XУII-XУIII ст-ях новую сітуацыю ў гэтым рэгіёне. Разам з Каталіцкаю Царкою лацінскага абраду заняла трывалыя пазіцыі ў Беларусі, якія не здолела пахіснуць вайна 1654 - 1667 гг. паміж Расейскаю дзяржаваю і Рэччу Паспалітаю і нават часовае займаньне тэрыторыі Беларусі войскам цара Аляксея Міхайлавіча і часовае выгнаньне рымска-каталіцкіх вуніяцкіх сьвятароў.

**У XУII-XУIII стагоддзях на Беларусі культура разьвіваецца пад [illegible]ць-цядайным уплывам эўрапэйскай культуры у яе галоўных сферах: філясофіі, праве, навуцы, літаратуры і мастацтве, пэдагагічным выхаваньні. Культура Беларусі ў гэты час зьяўляецца спалучальным звяном у ланцугу паміж эўрапэйскай культураю і культураю Расеі. Можна прывесьці прыклады. Уніяцкі манах Сімеон Сітніяновіч з Полацку стаў выхавацелем царскіх дзяцей. Вядомы у Маскве як паэт пад імем Сімеона Полацкага. Прыкметным быў удзел беларускіх майстроў у будаваньні царскіх палацаў у Крамлі і палат для Патрыярхаў. Узятыя ў палон шляхта і вайскова-службовыя людзі з Беларусі сяліліся царскім урадам не толькі ў Маскве, але і ў Сібіры і Далёкім Усходзе, дзе выхадцы з беларусаў нярэдка дасягалі высокіх ваенных і адміністрацыйных пасадаў. З паселеных у Маскве Беларусаў выйшлі вядомыя дзеячы Расеі пятроўскіх часоў: князь Меньшыкаў, Ягужынскі і іншыя.**

**СУПОЛКА ТБМ У РЫМЕ, ЖАДАЕ УСІМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1992 ГОДУ!**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**